ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 4 (1538) | Пятніца, 13 студзеня 1961 года | Цана 4 кап.

**На Пленуме Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза працягваецца абмеркаванне другога пытання парадку дня — аб выкананні Дзяржаўнага плана і сацыялістычных абавязацельстваў па вытворчасці і продажу дзяржаве прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі ў 1960 годзе і аб мерапрыемствах па далейшаму развіццю сельскай гаспадаркі.**

**З вялікай цікавасцю сочаць працоўныя краіны за работай Пленума.**

# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

## Аб Пленуме Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза

10 студзеня 1961 года ў Вялікім Крамлёўскім палацы адкрыўся Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС.

Пленум зацвердзіў наступны парадак дня:

1. Аб скліканні чарговага, XXII з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

2. Аб выкананні Дзяржаўнага плана і сацыялістычных абавязацельстваў па вытворчасці і продажу дзяржаве прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі ў 1960 годзе і аб мерапрыемствах па далейшаму развіццю сельскай гаспадаркі — даклады: Савета Міністраў РСФСР, ЦК Кампартыі Украіны, ЦК Кампартыі Казахстана, крайкома партыі Цаліннага краю, ЦК кампартый: Беларусі, Узбекістана, Грузіі, Азербайджана, Літвы, Малдавіі, Латвіі, Кіргізіі, Таджыкістана, Арменіі, Туркменіі і Эстоніі.

3. Даклад аб выніках Нарады прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый.

Пленум ЦК прыняў Пастанову аб скліканні чарговага, XXII з'езду КПСС 17 кастрычніка 1961 года. Пастанова Пленума ЦК па гэтаму пытанню публікуецца.

Пленум ЦК працягвае работу.

Для ўдзелу ў рабоце Пленума ЦК запрошаны сакратары ЦК кампартый саюзных рэспублік, крайкомаў і абкомаў не члены ЦК, загадчыкі сельскагаспадарчых аддзелаў ЦК кампартый саюзных рэспублік, крайкомаў, абкомаў партыі, некаторыя сакратары райкомаў партыі; старшыні Прэзідыумаў Вярхоўных Саветаў саюзных рэспублік; старшыні Саветаў Міністраў саюзных і аўтаномных рэспублік, выканкомаў краявых і абласных Саветаў дэпутатаў працоўных, намеснікі старшынь Саветаў Міністраў саюзных рэспублік, якія займаюцца пытаннямі сельскай гаспадаркі, старшыні Дзяржпланаў саюзных рэспублік, некаторыя старшыні саўнаргасаў, міністры сельскай гаспадаркі саюзных і аўтаномных рэспублік, начальнікі краявых, абласных упраўленняў сельскай гаспадаркі, міністры воднай гаспадаркі саюзных рэспублік, некаторыя дырэктары саўгасных трэстаў і саўгасаў; вучоныя, старшыні калгасаў, перадавікі сельскай гаспадаркі; начальнікі і галоўныя канструктары дзяржаўных і спецыяльных канструктарскіх бюро па трактарабудаванню і сельскагаспадарчаму машынабудаванню і галоўныя інжынеры і канструктары заводаў, дырэктары і галоўныя інжынеры трактарных заводаў, а таксама вядучых заводаў сельскагаспадарчага машынабудавання; кіраўнікі навукова-даследчых інстытутаў па механізацыі сельскай гаспадаркі; кіруючыя работнікі міністэрстваў і цэнтральных ведамстваў; рэдактары цэнтральных газет і часопісаў; адказныя работнікі апарату ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР.

# АБ СКЛІКАННІ ЧАРГОВАГА XXII З'ЕЗДУ КПСС

## Пастанова Пленума ЦК КПСС, прынятая 10 студзеня 1961 года

**1. Скліканць чарговы, XXII з'езд КПСС 17 кастрычніка 1961 года.**

**2. Зацвердзіць наступны парадак дня з'езду:**

**1) Справаздачны даклад Цэнтральнага Камітэта КПСС — дакладчык Першы сакратар ЦК КПСС тав. Хрушчоў М. С.**

**2) Справаздачны даклад Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС — дакладчык старшыня Рэвізійнай камісіі тав. Горкін А. Ф.**

**3) Праект Праграмы КПСС — дакладчык тав. Хрушчоў М. С.**

**4) Аб змяненнях у Статуце КПСС — дакладчык сакратар ЦК КПСС тав. Казлоў Ф. Р.**

**5) Выбары цэнтральных органаў партыі.**

**Праект Праграмы КПСС і праект Статута КПСС апублікаваць у друку.**

**3. Устанавіць наступныя нормы прадстаўніцтва на XXII з'езд КПСС: адзін дэлегат з рашаючым голасам ад 2.000 членаў партыі і адзін дэлегат з дарадчым голасам ад 2.000 кандыдатаў у члены партыі.**

**4. Дэлегаты на XXII з'езд КПСС выбіраюцца, згодна са Статутам партыі, закрытым (тайным) галасаваннем на чарговых абласных, краявых партыйных канферэнцыях і з'ездах кампартый саюзных рэспублік. Выбары дэлегатаў на з'езд КПСС ад кампартый Украіны, Беларусі, Узбекістана і Казахстана праводзяцца на абласных (краявой) партыйных канферэнцыях ці на з'ездах кампартый — па ўгледжанню ЦК кампартый гэтых рэспублік.**

**Камуністы, якія знаходзяцца ў партыйных арганізацыях Савецкай Арміі, Ваенна-Марскога Флоту, унутранай і канвойнай аховы і пагранічных часцей, выбіраюць дэлегатаў на XXII з'езд КПСС разам з астатнімі партыйнымі арганізацыямі на абласных, краявых партканферэнцыях ці з'ездах кампартый саюзных рэспублік.**

**Камуністы, якія састаяць у партыйных арганізацыях часцей Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, што знаходзяцца за граніцай, выбіраюць дэлегатаў на XXII з'езд партыі на партыйных канферэнцыях адпаведных вайсковых злучэнняў.**

**5. Абласныя, краявыя партыйныя канферэнцыі і з'езды кампартый саюзных рэспублік правесці ў верасні 1961 года, на якіх, акрамя справаздач і выбараў кіруючых партыйных органаў і выбараў дэлегатаў на XXII з'езд КПСС, абмеркаваць таксама праект Праграмы КПСС і праект Статута КПСС.**

БУДНІ СЯМІГОДКІ

# МАЯКІ БУДУЧЫНІ

Глядзім сёння на наша жыццё і думаем: «А якім яно будзе праз два, тры, пяць год? Чаго дасягне чалавечы геній, як складуцца ўзаемаадносіны людзей у працы і да працы?..»

Узяты намі разгон настолькі смелы, настолькі імклівы, што ажно дух займае. Што ні дзень — то новая смелая думка, новы пачын, новы рэкорд, новы гіганцкі крок у будучыню. І больш за ўсё радуе не тое, што сёння мы зрабілі больш, чым учора, а тое, што зрабілі яго значна лепш і хутчэй, і разам з тым, самі ўзняліся на нейкую новую ступеньку грамадскай свядомасці.

Яшчэ год назад, на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній фрэзероўшчык А. В. Філіч быў звычайным рабочым. Працаваў, як і ўсе іншыя, выконваў і перавыконваў зменныя нормы, атрымліваў нядрэнную заработную плату, і, здавалася б, чаго яшчэ больш трэба? Але сёння фрэзероўшчыку Філічу гэтага мала, бо і сам ён, Філіч, ужо не той, што быў год назад.

З простага рабочага ён стаў рацыяналізатарам, а сёння — канструктарам! Цяпер не трэба чакаць, пакуль хтосьці іншы распрацуе тваю прапанову. Ды і навошта даручаць некаму канструктарскія пошукі, калі сам здольны зрабіць гэта? А ці толькі адзін Філіч такі на заводзе аўтаматычных ліній?

У грамадскіх канструктарскіх бюро тут сёння ўжо больш пяцідзесяці чалавек, а праз тыдзень-другі іх будзе значна больш.

Грамадскія канструктарскія бюро — гэта параўнаўча новая з'ява ў мнагаграннай дзейнасці энтузіястаў рабочых і індустрыяльнай інтэлігенцыі. Нарадзіўшыся на Урале, яна хутка разляцелася па ўсёй нашай краіне і знайшла шырокую і гарачую падтрымку.

Маргарыта Георгіеўна Антонава — начальнік бюро інструментаў завода аўтаматычных ліній — жанчына сярэдніх год. Але па спрыту ў працы і ўменню арганізаваць калектыў на якую-небудзь справу ёй можа пазайздросціць любая маладая дзяўчына. Відаць, нездарма камуністы выбралі яе намеснікам сакратара парткома завода, а партком даручыў ёй кіраваць работай грамадскіх канструктарскіх бюро.

Дарэчы сказаць, партком і дырэкцыя завода чула ставяцца і клапоцяцца аб стварэнні нармальных умоў для працы грамадскіх бюро. Ім выдзелены асобны пакой з неабходным абсталяваннем і чарцёжнымі прыладамі, спецыяльная тэхнічная бібліятэка і невялічкі цэх, дзе выконваюцца работы, спраектаваныя ў грамадскіх канструктарскіх бюро. Новаму адкрыта «зялёная вуліца».

Пакуль мы ходзім з цэха ў цэх, Маргарыта Георгіеўна знаёміць мяне з лепшымі рацыяналізатарамі завода, паспявае адначасова перакінуцца з імі некалькімі словамі. І я заўважаю: робіць яна гэта таму, што ёй самой патрэбна сустрэцца з гэтымі людзьмі і штосьці сказаць ім або запытацца, параіцца... Мне цікава, што яна робіць гэта амаль незаўважна.

У цэхах прасторна, светла, адменная чысціня. Увесь калектыў завода змагаецца за ганаровае права называцца калектывам камуністычнай працы.

Маргарыта Георгіеўна з захапленнем расказвае аб людзях грамадскага канструктарскага бюро:

— Да гэтага часу яны не мелі ніякага дачынення да канструктарскай работы. А сёння ўжо кожны з іх штосьці зрабіў, сканструяваў. Толькі ў чарцяжах мы маем больш трыццаці праектаў, дваццаць з якіх зроблена па рацыяналізатарскіх прапановах.

Станеш іншы раз дзе-небудзь з боку, глядзіш, з якім натхненнем працуюць над чарцёжнай дошкай людзі, якія прыйшлі толькі што ад станка, і радасна робіцца на сэрцы: «Якіх цудоўных людзей выхавала партыя!»

А што прывяло іх сюды? Грошы? Прага да славы? Не! Гэта зусім не тыя людзі. Ідуць яны працаваць у гэтыя бюро бясплатна, з пачуццём усведамлення, што завод — гэта іх завод, што справы калектыву — гэта іх кроўныя справы.

Галоўным напрамкам у рабоце грамадскіх канструктарскіх бюро на заводзе аўтаматычных ліній з'яўляецца распрацоўка рацыяналізатарскіх прапаноў, мэта — навучыць саміх рацыяналізатараў праектаваць. І гэта, бадай, самая правільная лінія.

Першапачаткова некаторыя «гарачыя галовы» думалі размахнуцца на больш буйныя, кардынальныя праблемы. Але ці магчыма пасля працы за гадзіну-другую зрабіць тое, што патрабуе шмат дзён стараннай працы? Вядома нельга. А навучыўшы канструяваць рацыяналізатараў, вынаходнікаў і другіх энтузіястаў, гэтым самым можна зрабіць паслугу ўсяму заводу і самім грамадскім канструктарам.

Па-першае, значна разгружаюцца штатныя канструктары ад распрацоўкі рацыяналізатарскіх прапаноў і маюць больш магчымасці займацца непасрэднай сваёй справай, а па-другое, сам рабочы, спраектаваўшы сваю прапанову, узбагачаецца ведамі і ўзнімаецца на вышэйшую ступень, на ступень, дзе пачынае знікаць розніца паміж разумовай і фізічнай працай.

Цяпер гэта ўжо не тэарэтычнае прадбачанне, а жывое ўвасабленне, якое з кожным днём набывае ўсё большы і шырэйшы размах. Чарцяжы распрацаваных работ грамадскімі канструктарамі: стругальшчыкам М. Кухаронкам, фрэзероўшчыкам А. Філічам, нарміроўшчыкам С. Царыкевічам і многімі іншымі, па сваёй дакладнасці, бадай, нічым не адрозніваюцца ад чарцяжоў прафесіянальных канструктараў.

...Толькі што закончылася змена. Скінуўшы спяцоўкі і вымыўшыся пад душам, у пакой грамадскага бюро адзін за адным прыходзяць рабочыя-канструктары. У кожнага сваё рабочае месца, свае чарцёжныя прыборы. Шастае папера, паскрыпваюць цыркулі, рэйсфэдары, напружана працуе думка ў кожнага, хто схіліўся над чарцёжнай дошкай. Гэта выразна відаць па нахмураных бровах тэхнолага інструментальнага цэха Г. Капусціна, які распрацоўвае прыстасаванне для прыціркі вымяральных інструментаў, і па задуменнаму погляду Ніны Францаўны Стадніцкай, кіраўніка грамадскага канструктарскага бюро, якая старанна сочыць за працай кожнага.

Крыху інакш будуюць сваю работу грамадскія бюро на Мінскім аўтамабільным заводзе. Тут у асноўным людзі, што маюць вышэйшую і сярэднюю тэхнічную адукацыю, сярод якіх дваццаць сем канструктараў з аддзела галоўнага канструктара. Ёсць некалькі чалавек рабочых — перадавікоў вытворчасці.

Розныя па ўзросту, прафесіі, вопыту работы, яны аб'ядналіся высокім пачуццём адказнасці за справы завода, за гонар калектыву, за сённяшні і заўтрашні дзень.

Прыемна бачыць, як побач з прафесіянальным канструктарам, вопытным інжынерам, тэхнікам над чарцёжнай дошкай схіляецца просты рабочы. Ён у роздуме моршчыць лоб, адкладвае цыркуль і лінейку, раіцца аб чымсьці з кіраўніком грамадскага бюро і зноў старанна вычэрчвае адну за другой дэталі сваёй прапановы.

Няхай, часам, яшчэ крыху дрыжыць рука, звыклая трымаць молат ці слясарны ключ, няхай яшчэ няма таго спрыту і ўмельства ў абыходжанні з прыборамі хітра зробленай гатавальні, затое побач з табой вопытныя сябры, такія ж энтузіясты, як і ты, гатовыя шчыра, кожную хвіліну прыйсці на дапамогу.

Цяжка яшчэ сказаць, на якім прадпрыемстве грамадскія канструктарскія бюро выбралі больш дасканалыя формы і метады працы, у каго з іх больш правільны кірунак. Але ўжо сёння можна гаварыць, што, нягледзячы на спецыфіку кожнага завода, у грамадскіх бюро ёсць адзін агульны напрамак — гэта работа сярод рацыяналізатараў. Тут такі прастор дзейнасці, такі далягляд, што і ўявіць сабе цяжка.

Яшчэ не так даўно на аўтамабільным заводзе пад васьмідзесяцітонны прэс рабочыя падавалі загатоўкі рукамі. Крыху не патрапіўшы, можна было застацца без пальцаў.

Сёння ж гэтую работу выконвае механічны рычажны скідвацель, або, як проста называюць яго — механічныя рукі. Яны самі падаюць пад прэс загатоўку і вымаюць гатовую дэталь.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Свята кнігалюбаў

Напярэдадні Новага года ў Палацы культуры чыгуначнікаў Гомеля пачаў працаваць клуб сяброў кнігі. Для кожнага наведвальніка тут многа цікавага. Прыгожа аформлены вітрыны — «Навіны літаратуры», «Для вас, маладажоны» і інш. Брыгадам камуністычнай працы прысвечана кніжная выстаўка.

Нядаўна ў клубе адбыўся вечар кнігі. Тэатральную залу запоўнілі рабочыя, служачыя. Было многа моладзі.

Вечар пачаўся літаратурна-музычнай кампазіцыяй (рэжысёр Г. Пікоўскі), прысвечанай дарадцу і сябру чалавека — кнізе. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці выступілі з чытаннем вершаў савецкіх паэтаў. Затым гучала музыка Глінкі, Чайкоўскага.

На вечары ўрачыста быў выбраны савет клуба. Затым выступілі маладыя паэты Гомельшчыны Браніслаў Спрынчан, Анатоль Грачанікаў, Ігар Паляшук, Уладзімір Отчык і Іван Мікалайчанка. Праведзена кніжная латарэя.

**Ф. КУРАС.**

# *Выступаюць аматары мастацтва*

Невялікая зала Крупскага РДК перапоўнена, а на вуліцы яшчэ стаяць людзі, якія жадаюць папасці на адкрыццё дэкады самадзейнага мастацтва раёна.

У гэтай дэкадзе прымуць удзел 103 самадзейных калектываў, якія налічваюць каля 1800 удзельнікаў. Калгасы, саўгасы, школы, розныя раённыя ўстановы доўга і напружана рыхтаваліся да агляду народных талентаў.

На сцэне зводны хор. Выконваецца ўрачыстая, велічная песня беларускага кампазітара І. Кузняцова «Нас вітае Ленін». Дырыжыруе мастацкі кіраўнік РДК Н. Моўчан, узнагароджаная Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за выдатную культурна-масавую работу. Перад пачаткам канцэрта сакратар райкома партыі ўручае ёй пачэсную ўзнагароду.

Сцэну запаўняюць дзеці, выхаванцы Бобрскага дзіцячага дома. Дзяўчынкі ў асляпляльна белых блузачках і хлопчыкі ў акуратных вышываных кашулях выконваюць «Песню аб Заслонаве» Ул. Алоўнікава, «Слаўся ў вяках, наш савецкі народ» Носава і некалькі іншых песень.

Асабліва спадабаліся гледачам «Чэшская полька» ў выкананні маленькіх балерын, акрабатычны эцюд (Л. Рашэтнік і Л. Змітрачэнка). Неблагое ўражанне пакінуў дзіцячы аркестр народных інструментаў.

Вядучы аб'явіў, што наступны выступае калектыў мастацкай самадзейнасці калгаса імя Кірава. Мастацкі кіраўнік гэтага маладога калектыву — Н. Моўчан, якую мы ўжо бачылі ў пачатку канцэрта. Энтузіястка культурнай работы, жыхарка Крупак, яна дапамагае вясковай моладзі авалодаць сцэнічнай і вакальнай культурай. Калгасны хор пад кіраўніцтвам Моўчан бадзёра, з уздымам выконвае песню Туранкова «Радасць» і беларускую народную песню «Янка». Парадаваў гледачоў танцавальны калектыў, які паказаў беларускі танец «Лянок», а таксама вакальна-харэаграфічную кампазіцыю «Кукуруза».

У паузах выступала інтэрмедыйная пара — клоун і вядучы праграму. Але іх рэпертуар, манера трымаць сябе на сцэне пакідаюць жадаць лепшага. Жарты плоскія, збітыя. І яшчэ раз хочацца напомніць, што пісьменнікі-гумарысты ў вялікім даўгу перад самадзейнымі аматарамі эстрады.

Удалыя нумары паказаў калектыў мастацкай самадзейнасці вёскі Гумны, саўгаса «Ухвалы». Рабочыя і служачыя аднаго з самых аддаленых саўгасаў Крупскага раёна прывезлі даволі разнастайную і цікавую праграму. Хор выканаў песню А. Шыдлоўскага «Колькі ў небе зорак». Хораша і непасрэдна, з мяккім гумарам прачытаў байку Ул. Корбана «Споведзь» загадчык клуба А. Баравуля. Неблагое ўражанне пакінулі песні ў выкананні жаночага дуэта (А. Сіняк і Т. Мельнік) і «Дзявочы перапляс» у выкананні танцавальнага гуртка.

Але бадай самы вялікі поспех выпаў на долю самадзейных артыстаў Крупскага прамкамбіната. Хор выканаў беларускія народныя песні «Мой міленькі захварэў» і «На рацэ дожджык». Шчыра, ад усяго сэрца прачытала работніца Еўдакія Аўсіевіч верш С. Смірнова «Ад імя бацькоў і маці».

Варта адзначыць выступленне інструментальнага квартэта і танцавальнага гуртка, які выканаў своеасаблівую, прасякнутую народным гумарам «Крупскую кадрылю».

Драматычны калектыў прамкамбіната паставіў аднаактовую камедыю Янкі Купалы «Прымакі». У спектаклі ёсць шэраг істотных недахопаў, але ён падкупляе сваёй непасрэднасцю і іскрыстай весялосцю. Звонкая купалаўская мова гучала на фоне бесперыннага смеху, выкліканага не таннымі прыёмамі, а ўдалай інтэрпрэтацыяй твора. Добра выканалі свае ролі Т. Ярашэвіч (Даміцэля), Е. Лучына (Пелагея), Ул. Шахрай і іншыя. Трэба адзначыць удалыя дэкарацыі, зробленыя рукамі выканаўцаў.

**Н. АХРАМЧУК.**



**На здымку:** Выступленне хору Крупскага райпрамкамбіната.

Фота Ул. Крука.

